Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



## КАМУНІКАТ Но. 1 (67 АД 1990), ЛЮТЫ, 2002.

Сяньня 2 лютага, па новаму стылю, Грамніцы - сьвята. Перад Грамніцамі тата рабіў васковыя сьвечкі. Сьвечкі вялікія так з паўмэтровыя і адпаведнае таўшчыні. Восак у нас быў свой, бо тата займаўся й пчалярствам. У садзе стаяла ў нас некалькі вульляў пчол. За клуняй часта сеялі грэчку, з кветак якое пчолы зьбіралі мёд. Цэлы год у нас быў свой мёд і свой восак. Вось з гэтага жоўтага воску й рабіў тата сьвечкі. Памятаю працэс выраблянььня іх.

На Грамніцы бацькі, а пасьля й старэйшыя дзеці, ішлі з гэтымі сьвечкамі ў царкву. У часе Багаслуюбы ўсе вернікі трымалі ў руках запаленыя сьвечкі. Пад канец Багаслужбы сьвятар сьвяціў вернікаў з запаленымі ў руках сьвечакмі - сьвяціў агонь. Вось гэты сьвяты ўжо агонь кожны нёс дамоў. Важна быуло данесьці сьвяты агонь аж да свае хаты. Мы жылі ад царквы, якіх 20 хвілін дарогі. І занесьці сьвяты агонь аж да свайго дому ня было проста. Людзі йшлі грамадой, і калі ў каго пагасла сьвечка, запальваў яе сьвятым агнём ад суседа. І мама, пазмятаю, ды й кожны, заносілі сьвяты агонь да сваєаіх хатыаў. Перш за ўсё на стале перад абразамі, або на «бальцы» рабілі дымком сьвятога агню чорны крыжык. Крыжык гэты быў сьведчаньнем, што ў гэтым доме жыве Бог - Ісус Хрыстос. Наступна, мама кожнаму з нас дзяцей сьвятым агнём спальвала драбінклу валаскоў над лобікам , узадзе галавуы і над скронямі. У гэткі спосаб зробленым сьвятым агнём крыжам блаславіла кожнага з нас і аддавала нас пад Боскую апеку. Грамніучныя сьвечкі перахоўваліся каля сьвятых іконаў на покуці хаты. Запаленую Грамнічную сьвечку давалі паміраючай асобе сям'і ў ртукі , каб са сьвятым агнём лягчэй душа знайшла дарогу да Бога. Прыгожы звычай, гаворыць аб духоўнасьці нашых бацькоў , дзядоў і прадзедаў, аб духоўнасьці беларускага народу.

### АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ЖЫЦЬЦЁ БЕЛАРУСКАЕ ЭМІГРАЦЫІ

І яно, штадзённае жыцьцё, змаганьне за існаваньне нас - як Беларусклае нацыі - праводзіцца пад накіраваньнем, апекай і благаславенствам Божым. Як мы ў Камунікаце ККБК Но 7 за лістапад 1999 году пісалі, што заснаваная ў лістападзе 1948 году першая беларуская нацыянальная арганізацыя Згуртаваньне Беларусаў Канады галоўнымі мэтамі ставіла сабе:

1. Стварыць моцную нацыянальную арганізацю, верную ідэалам 25 Саклавіка, Радзе й Ураду БНР.

2. Арганіцацыя гэтая павінна мець, як маральную апопру сваю Беларускую Аўтакэфальную Праваслаўную Царкву (БАПЦ). Царква БАПЦ парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ўладжаная была, у новакупленым беларускім доме на Данадас 1000, і зарэгістраваная ў 1954 годзе.



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

3. Беларуская нацыянальная арганізацыя - ЗБК - павінна мець сваю матарыяльную базу, свой дом для грамадзкага карыстаньмня (куплены ў 1954 г.), сваю крэдытовую супалку. Сарганізавалі мы яе ў 1952-м, і **ў 1953 г**, была яна зарэгістрована як **Belarussian (Toronto) Credit Union. LTd.**, зарэгістраваная як канадыйская фінансавая інстытуцыя, што падлагала праву кандыйскага **Credit Union.**

А яшчэ раней, восеньню на пачатку **1951-52** акадэмічнага году пры аддзеле сьлявістыкі Унівэрсытэту Таронта - University Extention - быў заснаваны **лектарат беларусаведы.** 15 кастрычніка 1951, урачыста адкрыў яго кіраўнік аддзелу сьлявістыкі праф. Шор. Заснавальнікам і выкладчыкам лектарату беларусаведы быў Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Грамадзкіх аргнізацый, такіх, як ЗБК у дэмакратычнай Канадзе рэгістраваць **ня трэба.**

**Скарэгаваньне памылкі ў «Беларускім Слове»**

У «Беларускім Слове» Но. 1, 2002 Цётка Алекснадрына кажа:

«Тое, што беларусы для ўсягпо сьвету невадомы народ, мы ўжо ўцямілі і прызвычаіліся. Яшчэ 50 гадоў таму назад Згуртаваньне Беларусаў Канады нашыя суайчыньнікі ніяк не маглі зарэгістраваць, «Няма такое краіны, няма такога наропду»...»

Не, так казаць нельга! Хадзіла там пра зусім іншую справу, пра Статыустыку Канады. У Статыстыцы Канады пералічаны былі ўсе этнічныя групы, якія да 50-х гадоў пражывалі ў Канадзе. Беларуская этнічная групыа ня было пададзеная, бо прадстаўнікі эканамічнае, нацыянальна нясьведамае беларускае эміграцыі канца 19-га й пачатку 20-га стагодзьдзяў не падавалі сябе за беларусаў. Паводле іхніх дакумэнтаў - польскіх, або расейскіх запісвалі іх палякамі, або расейцамі. Калі ў канцы 40-х і пачатку 50-х гадоў 20-га стагодздзя стала прыяжджаць нашая нацыянальна сьведамая беларуская эміграцыя, у часе Цэнзусаў 1951 ды 1956 годоў, мы дамагаліся, каб нас запісвалі беларусамі, хоць у нас беларускіх дакумэнтаў ня было , былі польскія, або савецкія. І тут нас не хацелі запісваць беларусамі, бо нас ня было ў сьпісе нацыянальнасьцяў, што пражываюць у Канадзе. Мы з гэтым не пагаджаліся , пратэставалі, змагаліся за сваю "Identity", за сваё Беларускае імя. Не, мы не «прызвычайваліся»! Мы змагаліся за свае людзкія правы! Калі дваццаціколькі гадвовняму сьв. пам. Лёньку Карыбу прыслалі "**ID**" картку, у якой было напісана, што ён паляк, Лёнька адаслаў дакумэнт назад у Атаваў й сказаў , што ён не паляк, а беларус і такога дакумэнта прыняць ня хоча. Прыслалі Лёньку дакумэнт з напісам, што ён Беларус. І Лёнька з гонарам паказваў нам усім правільную "ID"! Таму-ж я пра гэты выпадк памятаю, памятаю гордага беларуса-Лёньку.

**1967, Год Стагодзьдзя Канады - Год 450-х Угодкаў Беларускага Друку.** У гэтым юбілейным годзе Фэдэральныу урад Канады выдаў юбілейную кнігу : "**The Canadian Family Tree**" - **«Дрэва канадыйскае сям'і».** Дзеля гэтае

мэты Departament of the Secretary of State яшчэ на пачатку 1966 году зьвярнуўся да др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча з просьбай напісаць манаграфію пра беларусаў у Канадзе. В. Жук-Грышкевіч гэта зрабіў і ў кнізе **"The Canadian Family Tree"** на бачыне 51 ёсьць артыкул **"Byelorussians".**

**Другі Кангрэс Канадуйскіх Славіанаў - Second National Conference on Canadian Slavs** адбыўся ў Атаве, у мурох Атаўскага Унівэрсытэтру , 9 - 11 чэрвеня, 1967 г. пад пратэктаратам Яе Міласьці Спадарыні Паўліны Ваньне , канцлера Атаўскага Унівэрсытэту.

На гэтым кангрэсе др. Вінцэнмт Жук-Грышкевіч, сябра ЗБК, даў даклад на тэму «Беларусы й канадзкая статыстыка» - **"Belorussians and Canadian Statistics".** надрукаваны ў 2-м томе "Slavs in Canada", бачына 127. У выніку дакладу й дыскусіяў над ім Другі Кангрэс Канадыйскіх Славянаў выняс рэзалюцыю , у якой прапанаваў канадыйскім уладам палепшыць тэхніку перапісу насельніцтва Канады - менавіта - унесьці ў фармуляры перапісу назовы ўсіх славянскіх групаў Канады.

( Кніга «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча» , бачыны 370-386 )

Пасьля гэтага кангрэсу перад кожным Перапісам насельніцтва Канады - пачынаючы ад **Цэнзус 1971,** аж да леташняга **Цэнзусу 2001,** Каардынацыйнмы Камітэт Беларіусаў Канады выдаваў адумысловы Камунікат пра **CENSUS,** паясьняючы, як беларусы - канадыйцы беларускага паходжаньня - правільна павінны выпаўняць пытальнік Цэнзусу. Камунікат напамінае ім не забываць пра сваё беларускае паходжаньне.

8 кастрычніка, 1971 году Прэміер Канады Піер Эліёт Трудо абвесьціў **палітыку шматкультуралізму ў рамках білінгуалізму,** якая забясьпячала кожнаму канадыйцу права быць самім сабой, права захаваньня й разьвіваньня культуры краю свайго паходжаньня. Быў створаны дарадчы ворган для ўраду ў форме Канадзкай Кансультатыўнай Рады для спраў Шматкультуралізму - **Canadian Consultative Council on Multiculturalism (CCCM).** Сябры Канадзкай Кансультатыўнай Рады для спраў Шматкультуралізму, у ліку ста чалавек на Канаду, былі назначаныя Міністрам для спраў Шматкультуралізму др. Станлеем Гайдашам 17 травеня, 1973 г. **Ад беларускае этнічнае групы была назначана** др. Раіса Жук-Грышкевіч. Значыць беларусы ня былі абмінутыя й ў дзяржаўнай справе Канады. (Камунікат ККБК Но. 10, кастычнік, 2000)

1970. **25 Сакавіка - Бел-чырвона-белы сьцяг ля Ратушы Таронта.** А б гэтым мы абшырна піусалі ў Камунікаце ККБК Но 4, за красавік. 2001 году.

У 1974 і 1978 гадох ККБК выдаў друкам **англямоўны падручнік Беларускае Мовы - "Fundamental Byelorussian" аўтрства Валянціны Пашекевіч.** На выданьнме яго Фэдэральны урад Канады даў ККБК гранты - на першы том падручніка - 6, 000,00 даляраў. на другі том - 9, 000.00.

**1978 год. Скарэгаваньне памылкі ў Статыстыцы Канады,** у якой

беларуская мова ад 1933 г. фігуравала, як дыялект расейскай. Ізноў была праведзена цэлая кампанія, каб навукова даказаць, што беларуская мова ёсьць апрычонай усходне-славянскай мовай. Памылка Цэнзусу Канады быка выпраўлена.

**Беларускі памятны Крыж** узьняты ў **1988** г. на тысячыгодзьдзе хрысьціянства ў Беларусі. Мы атрымалі дазвол на ўзьняцьце яго ў афіцыйным мейсцы, прошчы канадыйскіх пакутнікаў - **Martyrs' Shrine in Midland, Ontario .**

**Помнік памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі** , узьнесены ў **1996** годзе побач **Беларускага памятнага Крыжа.** І на пабудову помніка трэба было дастаць дазвол.

**1989 год. Canadian Relief Fund for Chernobyl Victims in Belarus.** Канадыйская арганізацыя заснаваная беларусамі - Івонкай Сурвілла ў супрацоўніцтве зь іншымі. (Камунікат ККБК Но 5, травень, 2001)

Гэта толькі некалькі прыкладаў нашага плённага змаганьня за прысутнасьць **БЕЛАРУСШЧЫНЫ ў Канадзе.**

Таму нельга казаць, што мы прызвычаіліся да таго, што пра Беларусь сьвет ня ведае. Не, мы на працягу поўстагодзьдзя змагаліся за тое, каб пра Беларусь сьвет даведаўся. Мы сьвет інфармавалі, і інфармаваць будзем і ў 21-м стагодзьдзі. Вы, што выдаецё «Беларускае Слова», будзеце прадаўжаць нашую работу. А работу гэтую мы рабілі ўсе - праз беларускія арганізацыі й праз нашае прыватнае жыцьцё. Калі Барысу Кірку сказалі працаваць на праваслаўныя сьвяты, ён адказаў, што на 1-шы дзень сьвят, ён на працу ня пойдзе. Яму пагражалі, што звольняць з працы. Ён адказа.ў: «Гэта вашая справа, а я на першы дзень Каляд на працу не пайду!». Не пайшоў і ня звольнілі, яшчэ пасьля перапрашалі. Людзі шануюць тых, хто **сам сябе й СВАЁ** шануе.

Сказаўшы гэта скажу й наступнае: Віншую Згуртаваньне Беларусаў Канады з выхадам у сьвет «БЕЛАРУСКАГА СЛОВА». Вітаю асабіста й ад імя Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады. Усе мы жадаем вам плённае працы на карысьць беларускае вызвольнае справы. Жадаем, каб БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА сталася ворганам бязупыннага змаганьня за прысутнасьць БЕЛАРУШЧЫНЫ ў Канадзе й у сьвеце.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Раіса Жук-Грышкевіч

ШЧАСЬЦІ НАМ УСІМ , БОЖА, У 2002 ГОДЗЕ!

---

БЭРЫ - ТАРОНТА
ЛЮТЫ, 2002

ДР. РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ
БЫЎШЫ СТАРШЫНЯ